*“Лишь только тот достоен жизни и свободы, кто каждый день идёт за них на бой”*

***И.Гете “Фауст”***

# МАСТОЎСКАЯ ПРАЎДА

**31 траўня 2006 г. №5(13)**

**Грамадска - інфармацыйнае выданьне Мастоўшчыны**

**+ дайджэст**

# Поствыбары

***У апошнім нумары мы паведамлялі Вам пра некаторыя факты прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі. Рэдакцыя працягвае друкаваць цікавыя факты выбарчай кампані на Мастоўшчыне.***

**12 студзеня 2006 года ў Мастах пры выхадзе з цягніка Горадня-Баранавичы быў затрыманы студэнт філалагічнага факультэта Гарадзенскага ўнівэрсытэта імя Я. Купалы - Яўген Скрабутан. Супрацоўнікі міліцыі падазравалі юнака ў крадзежы мабільнага тэлефона. Аднак паводле зьвестак МП ім быў дадзены загад канфіскаваць у хлопца календарыкі з выявай лідэра дэмакратычных сілаў Беларусі *Аляксандра Мілінкевіча* і надпісам “Люблю Беларусь!”.**

6 супрацоўнікаў міліцыі на чале з намесьнікам кіраўніка аддзела Мастоўскага РАУС па прафілактыцы і грамадскай бяспецы Станіславам Хвайніцкім чакалі Яўгена Скрабутана каля кожнага вагона дызель-цягніка. Дэпутат Зарэмбюк таксама сустракаў свайго універсітэцкага сябра. Зарэмбюк узяў сумку з календарыкамі і адмовіўся паказваць яе змест без пратакола дагляду. Кіраўнік “аперацыі” - Станіслаў Хвайніцкі, які хуценька пракансультаваўся з кімсьці па тэлефоне, вызваў міліцэйскі “бобік”, у якім Скрабутана павезьлі ў аддзел. Разам з Женяй туды паехаў Зарэмбюк. У памяшканьні РАУС сумка была адчынена супрацоўнікамі міліцыі, але ж скрадзенага тэлефона там так ніхто і не знайшоў. У дарожнай торбе знаходзіліся календарыкі на 2006 год з фота-здымкам Мілінкевіча. Больш за 5000 календароў былі сканфі-скаваны ахоўнікамі правапарадку. Пры гэтым, падчас адкрыцьця сумкі не быў састаўлены пратакол дагляду, які паводле закона неабходна складаць падчас агляду.







Спадар Зарэмбюк які сачыў як прадстаўнік дзяржаўнай улады за захаваньнем законнасьці падчас інцыдэнту запатрабаваў скласьці пратакол дагляду. Гэта законнае патрабаваньне было выканана.

У сп. Зарэмбюка супрацоўнік міліцыі, сп. Пронька, узяў тлумачэньні. Яўгена Скрабутана адпусьцілі пасля складаньня пратакола аб прадухіленьні адміністрацыйнага правапарушэньня.

Аднак у выніку за распаўсюд календарыкаў *(рэд. якія нават сумкі не пакідалі!)* Яўгена Скрабутана выключылі з Гарадзенскага ўнівэрсітэта, а адміністрацыйная камісія Кастрычніцкага раёна г. Гродна пакарала яго штрафам у 29 000 рублёў. Суддзя Мастоўскага суда сп. Боцька вынесла прысуд, у выглядзе штрафу ў памеры 290 000 рублёў за распаўсюд друкаванай прадукцыі без выходных зьвестак.

Сп. Зарэмбюку, які як дэпутат раённага Савета сачыў за выкананьнем заканадаўства, адміністрацыйная камісія Мастоўскага райвыканкама вынесла папярэджаньне ,а Мастоўскі суд рашэньнем суддзі Боцька наклаў на дэпутата штраф у памеры 290 000 рублёў таксама за распаўсюд друкаванай прадукцыі без выходных зьвестак.

Сьведкай у судзе была кіраўнічка аддзела ідэалёгіі Мастоўскага райвыканкама Дубіцкая Наталля Іосіфаўна. А позва ў суд была накіравана намесьнікам старшыні райвыканкама, але ж прозьвішча намесьніка ў пастанове Суда ня ўказана. Застаецца пытаньне: “Дзе і пры якіх абставінах Скрабутан і Зарэмбюк распаўсюджвалі календарыкі, якія былі канфіскаваны мастоўскай міліцыяй да таго, як яны былі вынятыя з торбы? І калі календарыкі былі адабраны ў сп. Скрабутана да таго, як ён даў іх камусьці, тады за што тады былі накладзены гэтыя жахлівыя штраф?”

***Спецыяльна для МП Алеся Смольская.***

## Кіраўніцтва Мастоўскага райсавета парушае рэглямэнт

Падчас апошніх 2 – ух сесій Мастоўскага райсавета дэпутат раённага савета ад Цэнтральнай выбарчай акругі № 8 (пр. Юнацтва №№ - 2,4 і вул. Будаўнікоў №№ 2 – 16) Аляксандр Зарэмбюк быў запрошаны на паседжанні сесій за дзень, а ў апошнім выпадку за 2 гадзіны да пачатку мерапрыемства. Кіраўніцтва Савета ўжо не першы раз парушае рэгламент паводле якога дэпутату абявязаны паведаміць пра месца, час і павестку дня сесіі за 10 дзён да яе правядзення.

“Гэта сапраўды мяне вельмі хвалюе, ужо больш за год дэпутатам не высылаюць праекты рашэнняў і павестку дня сесіі, што стварае бстаноўку недаверу да кіраўніцтва Савета. За 2-3 гадзіны паседжання немагчыма унікнуць ў тыя пытанні і рашэнні якія разглядаюцца. Бывае і такое што пад час адной сесіі мы разглядаем і па 12 пытанняў Няма часу каб параіцца з прафесіяналамі ў той ці іншай галіне гаспадаркі, няма часу праверыць наколькі не супярэчыць тое ці іншае рашэнне Савета іншым праваым нормам.” – паведаміў карэспандэнту “Мастоўскай праўды” – Аляксандр Зарэмбюк.

***Святлана Пузевіч.***

## Беларусь будет покупать газ по 200 долларов?

Газпром" вслед за увеличением цен на газ для Украины, Литвы и Молдовы предложил Беларуси покупать природный российский газ в 2007 году по 200 долларов за тысячу кубометров вместо 46,68 доллара, которые страна платит сегодня. По данным "Коммерсанта", 1 июня в Москве глава компании Алексей Миллер, министр энергетики Беларуси Александр Озерец и гендиректор ОАО "Белтрансгаз" Дмитрий Казаков проведут переговоры о том, как будут строиться их взаимоотношения в условиях перехода на среднеевропейскую цену на газ. Ранее "Газпром" предлагал Беларуси 147 долларов за тысячу кубометров, и это предложение потребители называли неприемлемым. По информации газеты, дальнейшее увеличение цены стало ответом на конфиденциальные письмо премьер-министра Беларуси Сергея Сидорского главе правительства России Михаила Фрадкова. В письме было заявлено, что переход к западноевропейскому уровню цен на газ "противоречит договору о создании союзного государства" и приведет к разрушению его основы.

"Газпром" по-прежнему объявляет, что частично готов компенсировать рост цен за счет получения в собственность по коммерческой стоимости магистральных газопроводов "Белтрансгаза".

***www.charter97.org***

## НОВАЯ РУБРИКА

Уважаемые читатели “Мастоўскай Праўды” с этого номера мы начинаем рубрику КАК ПЬЮТ В МИРЕ. Здесь мы хотим познакомить Вас, с тем как употребляют алкогольные напитки в некоторых государствах. Проблема алкоголизма в Мостах и Беларуси очень актуальна. Поэтому мы хотим обратить Ваше внимание на то как употребляют алкоголь там где этой проблемы не существует.

Читайте на с.2 статью о Франции.

## ДЫЯЛЁГ

Дэпутат Аляксандар Зарэмбюк зьвярнуўся да рэдакцыі газэты з просьбай надрукаваць на старонках газэты «Мастоўская Праўда» публічны зварот да сп. Дубіцкай Н.І.

Чытайце зварот на с. 2

# Зварот

На жаль, не магу надрукаваць мой зварот на старонках раённай газэты «Зара з-над Нёмана», якая пазьбягае любога крытычнага матэрыялу ў адносінах да сёньняшняй улады, нягледзячы на тое, што на яе утрыманьне ідуць грошы з бюджэту, а значыць кожнага з нас. Таму хачу зьвярнуцца да Вас, паважаная Наталля Іосіфаўна Дубіцкая, з пытаньнем на старонках незалежнага выданьня «Мастоўская праўда»: «Вы былі супраць мяне сьведкай у Мастоўскім судзе. Дык, адкажыце, калі ласка, дзе і пры якіх абставінах я распаўсюджваў календарыкі з выявай Мілінкевіча?»



Калі ў Вас ёсьць магчымасьць, прашу надрукаваць Ваш адказ у раённай газэце «Зара з-над Нёмана» й паспрыяць таму, каб там жа было надрукавана й маё пытаньне разам з артыкулам Алесі Смольскай «Поствыбары», які, на маю думку, цалкам адпавядае рэчаіснасьці. Я як прадстаўнік улады, якому сотні жыхароў Мастоў аказалі давер прадстаўляць іх інтарэсы, хачу, каб людзі ведалі праўду! А Вы як чыноўнік, пасада якой прызначаецца зьверху, павінны трымаць адказнасьць ня толькі перад сваім начальнікам, а й перад народам.

**З павагай, дэпутат Мастоўскага раённага Савета дэпутатаў ад Цэнтральнай выбарчай акругі № 8 –** ***Аляксандр Зарэмбюк.***

## АД РЭДАКЦЫІ

Рэдакцыя «Мастоўскай Праўды» улічваючы становішча й магчымасьці дзяржаўнай прэсы, а таксама прытрымліваючыся прынцыпу аб'ектыўнага інфармаваньня сваіх чытачоў вольнага ад прапаганды й ідэалёгіі, з радасьцю прадставіць магчымасьць сп. Дубіцкай Н. І. надрукаваць адказ на старонках нашага выданьня. Аб'ектыўнасьць, павага да чытачоў і меркаваньня кожнага чалавека зьяўляюцца прынцыпамі Мастоўскай Праўды.

Просім дасылаць адказ на наш электронны адрас:

**masty.prawda@hotmail.com**

Тым жа, хто хоча даведацца ад самой сп. Дубіцкай Н.І., за што дэпутат Зарэмбюк заплаціў 290 тысяч рублёў штрафу, мы ніжэй падаем яе тэлефон. Вы можаце затэлефанаваць ёй і запытаць, дзе й пры якіх акалічнасцях сп. Зарэмбюк распаўсюджваў календарыкі з выявай Мілінкевіча.

Тэлефон сп. Дубіцкай Натальлі Іосіфаўны – **378 36 01.**

***Рэдакцыя Мастоўскай Праўды.***

## Маладафронтаўцы абвясьцілі галадоўку

Да галадоўкі пяцёх сяброў незарэгістраванай арганізацыі "Малады фронт" у Салігорску, якія абвясьцілі галадоўку на знак пратэсту супраць перасьледу, далучыліся дзевяцёра іхных паплечнікаў у Менску, а таксама трое ў Горадні. Маладафронтаўцы патрабуюць, каб улады спынілі крымінальны перасьлед моладзевых актывістаў апазыцыі.

Максім Сяменчык, Яўген Мядзьведзеў, Мікола Пацкевіч, браты Іван і Ільля Шыла галадаюць у Салігорску ад 29 траўня. На гаўбцы прыватнай кватэры хлопцы вывесілі расьцяжку "Галадоўка". Міліцыянты запатрабавалі, каб яе зьнялі. Але ў выніку зрываць расьцяжку давялося самім міліцыянтам. Праз паўгадзіны хлопцы вывесілі бел-чырвона-белы сьцяг.

Ільлю Шылу 13 гадоў, а Івану 15. Іхная маці лічыць, што недзіцячая справа трымаць галадоўку, але падтрымлівае сваіх дзяцей.

паводле ***Радыё Свабода***

# Как пьют в мире: ФРАНЦИЯ

Во Франции стали пить меньше. Меняющаяся культура, рост цен на спиртное в барах и ресторанах и запоздалое принятие законов об управлении автомобилем в пьяном виде - все эти факторы сыграли свою роль.

Тем не менее, вино все еще занимает важное место на семейном обеденном столе. Поколения французов познавали доставляемое виноградом удовольствие с детства, с позволения родителей запивая еду разбавленным красным вином или, точнее сказать, водой, подкрашенной вином.

Французы пьют скорее ради утоления жажды, чем ради самого алкогольного опьянения.

Группы молодых людей, выходящие из парижских или средиземноморских ночных клубов, могут кричать, шуметь и громко хлопать дверцами автомобилей, не думая о том, что жители соседних домов не могут от этого уснуть. Однако в большинстве случаев они пьяны не очень сильно и не настроены с кем-либо подраться. А вид молодой француженки, пытающейся удержаться на ногах после ночи, проведенной в баре, остается редкостью.

***Николай Сидрович***

ДАЙДЖЭСТ

## Вольга Корбут: бел-чырвона-белы сьцяг - сапраўдны

Сайт вядомай гімнасткі Вольгі Корбут, якая жыве цяпер у ЗША, паказвае нашую зямлячку як шчырую беларуску: яна не забылася патлу-мачыць амэрыканцам, што многія дарма думаюць, нібы яна расейка. І далей ідзе кароткі расповед пра Беларусь. У гэтым жа раздзеле патлумачаная розьніца паміж лука-шэнкаўскім і нацыянальным сьцягам.

Як паведамляе "Наша Ніва", на сайце Корбут бел-чырвона-белы сцяг названы сапраўдным (this is the real flag of Belarus), а чырвона-зялёны – афіцыйным (at the official), які, «на жаль», падмяніў сапраўдны.

***Паводле радыё "Свабода"***

**Ад рэдакцыі:** вы можаце знайсьці сайт Волькгі Корбут па наступным адрасе:

## Олег Гулак: «История повторяется»

Белорусские правозащитники выступают против установления в Минске нового памятника Дзержинскому, точной копии того, что стоял на Лубянской площади в Москве и был сброшен во время переворота 1991 года. «Не думал, что у нас так далеко зайдет. Это станет знаком окончательного установления в Беларуси диктатуры. Страшно, что никто уже не пытается это замаскировать, все предельно откровенно. О миллионах жертв машины, созданной «железным» Феликсом, белорусская власть предпочитает замалчивать, и это говорит о том, что нам, правозащитникам, нужно готовится к худшему. История повторяется», -- заявил правозащитник, заместитель председателя Белорусского Хельсинкского Комитета Олег Гулак, комментируя пресс-центру Хартии'97 установление памятника.

***www.charter97.org***

## Беларусь по-прежнему в лидерах по числу заключенных

Международный центр тюремных исследований опубликовал последние статистические данные о количестве заключенных, приходящихся на 100 тысяч населения стран мира.

Согласно данным отчета, в Азербайджане на каждые 100 тысяч человек населения приходится 198 заключенных. Среди стран СНГ Азербайджан опережают по этому показателю только Армения (92), Таджикистан (159) и Грузия (165). В Армении на каждые 100 тысяч человек населения приходится 92 заключенных. А в странах постсоветского пространства по этому показателю лидируют Беларусь и Россия, в которых на 100 тысяч человек приходится 532 заключенных.

Последующие места в этом списке занимают Туркмения (489), Узбекистан (489), Украина (417), Киргизия (390), Эстония (389), Казахстан (386), Латвия (337), Молдова (297), Литва (234), Азербайджан (198), Таджикистан (159) и Армения (92). В отчете есть статистические данные о Польше (209 заключенных на каждые 100 тысяч человек населения), Голландии (123), Италии (98), Японии (58), Китае (118), Индии (29), Саудовской Аравии (110) и Ирану (194).

***www.charter97.org***

## В Беларуси обитают 688 зубров

В Беларуси в настоящее время обитают 688 зубров. Об этом на пресс-конференции сообщил заместитель Министра природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Беларусь Валентин Малишевский. Он отметил, что в стране насчитывается 8 популяций зубров. При этом все популяции развиваются динамично и на 100% устойчивы, добавил замминистра. Вместе с тем, по его словам, на сегодняшний день в Беларуси еще остались некоторые виды животных, вопрос о сохранении популяций которых вызывает опасения у белорусских ученых. К примеру, обитающую в лесах Беларуси европейскую норку вытесняет более агрессивная американская норка, завезенная некогда в нашу страну. «Эти виды внешне очень похожи друг на друга, и мы не можем уничтожать американскую норку без опасений уничтожить европейскую», – отметил Валентин Малишевский. Заместитель Министра природных ресурсов и охраны окружающей среды напомнил, что редкие или находящиеся под угрозой исчезновения виды диких животных и дикорастущих растений находятся под охраной государства и занесены в Красную книгу Беларуси. В настоящее время в свет вышло третье издание книги.

***www.charter97.org***

**История Беларуси от BBCRussian.com за последние 12 лет**

## 1994 - Первые президентские выборы в Беларуси

Первые президентские выборы в Беларуси, состоявшиеся летом 1994 года, принесли победу Александру Лукашенко - во втором туре бывший директор совхоза "Городец" Шкловского района одержал убедительную победу над главой правительства Вячеславом Кебичем.

Александру Лукашенко в ту пору было 40 лет, широкую известность и любовь избирателей депутат Верховного Совета Лукашенко получил после сделанного им антикоррупционного доклада. "Разоблачению" подвергся даже автор Беловежских соглашений и в ту пору глава парламента Станислав Шушкевич, Лукашенко обвинил Шушкевича в краже ящика гвоздей для строительства личной дачи. По правилам того перестроечного времени доклад и резкие выступления Лукашенко в парламенте транслировались в прямом эфире радио и телевидения.

Любопытно, что озвученный в парламенте через несколько месяцев (в декабре 1994 г.) доклад депутата Сергея Антончика о коррупции в команде Лукашенко не увидел свет: вместо доклада газеты Белоруссии впервые вышли с белыми пятнами, т.к. текст был запрещен к публикации и снят буквально с печатных станков.

**Мастоўская праўда + *дайджэст***

e-mail для ліставаньня : **masty.prawda@hotmail.com**
Заснавальнік: дэпутат Мастоўскага раённага Савета дэпутатаў : **Аляксандр Зарэмбюк.**
Выдавец: Цэнтр выдавецкіх ініцыятываў.
Дызайн і вёрстка: **Сяргей Губарэвіч.**
Рэдактар: **Алеся Смольская.**
**Надрукавана пры падтрымцы жыхароў горада Масты.**
Выдаецца 2 разы ў месяц на беларускай і расейскай мовах.
Наклад : 299 ас.
Распаўсюджваецца бясплатна.
Надрукавана ў ЗАТ "Рэспублікас спаўстувэ", 10 п.л., LT-01115 пл. Лукішкі 3, Вільня.
**Адрас рэдакцыі: вул. Я. Купалы 1, 231600 Масты, Гарадзенская вобл., Беларусь.**